ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 18
(2368)

5 мая 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

## ВОЛЯ, РОЎНАСЦЬ, НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ




**Шырока адзначаюцца ў Беларусі 200-я ўгодкі вызвольнага паўстання 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. Доўгія дзесяцігоддзі з падачы яшчэ царскай вялікадзяржаўнай гістарыяграфіі, з маўклівай згоды польскіх гісторыкаў гэта паўстанне лічылася выключна польскім. Аднак і па тэрыторыі, што яно ахапіла (не толькі Польскае Каралеўства, але і Вялікае Княства Літоўскае), і па ўдзелу ў ім насельніцтва гэтых земляў яно не было выключна "польскім". Паўстанне 1794 года ставіла мэтай выгнанне з Польшчы і Беларусі расійскіх, прускіх і аўстрыйскіх акупацыйных войскаў, вяртанне страчаных земляў у выніку першага і другога падзелаў Рэчы Паспалітай. Лозунг паўстання: "Воля, цэласць, незалежнасць" быў на Беларусі крыху іншым -- "Воля, роўнасць, незалежнасць". Сам Тадэвуш Касцюшка паклікаў у паўстанцкае войска і польскага, і беларускага, і літоўскага селяніна, абяцаючы яму роўнасць і волю, заявіўшы, што "за адну толькі шляхту", толькі за яе інтарэсы ён біцца не будзе. На тэрыторыі Беларусі паўстанне ахапіла значную частку Віцебшчыны, Віленшчыны, Гродзеншчыны,Міншчыны. На Берасцейшчыне, радзіме нашага слаўнага земляка Андрэя Тадэвуша Касцюшкі, паўстанне было падтрымана беларускім насельніцтвам незалежна ад яго прыналежнасці да рэлігійных канфесій. Імя кіраўніка паўстання беларуса-літвіна Т. Касцюшкі засталося ў песнях і паданнях нашага народа.**

**Паўстанне пацярпела паражэнне, але паклала пачатак вызваленчай барацьбе палякаў, беларусаў, літоўцаў за нацыянальную свабоду.**

**НА ЗДЫМКУ: 24 красавіка ў Дзяржаўнай філармоніі адбыўся сход грамадскасці Беларусі і канцэрт майстроў мастацтва, прысвечаны юбілею.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

*РАСКАЗ Марыі ПЯТРОЎНЫ*

# А ЛЮДЗІ Ж НЕ ТРЭСКІ...

Гераіню гэтага нарыса Марыю Яроменка мне доўга шукаць не давялося. Ліст, у якім Марыя Пятроўна расказвала, як жыве, а дакладней, існуе з двума дзецьмі на 125 тысяч "зайчыкаў" у месяц, не так даўно надрукавала "Народная газета". Не, жанчына не скардзілася на лёс, не прасіла дапамогі, не лямантавала: "Ой, людцы добрыя, як жа жыць далей..." Ліст быў напісаны з зусім іншай нагоды. Пачуўшы па радыё, як на сесіі Вярхоўнага Савета дэпутат Ціхіня абураўся газетамі, якія пішуць, быццам бы ў рэспубліцы ёсць людзі, што галадаюць, Марыя Пятроўна ў сваю чаргу абурылася народным выбраннікам, які не ў курсе спраў свайго народа.

-- Так, мы галадаем, -- напісала яна. -- Першыя дзесяць дзён грошай яшчэ хапае, а потым даводзіцца есці адну бульбу і хлеб. Нават мыла няма за што купіць...

У канцы ліста быў надрукаваны нумар яе тэлефона, па якому я і пазваніла. Мы сустрэліся і вельмі доўга гаварылі. Калі каму-небудзь расказ Марыі Пятроўны падасца надуманым, скажу адразу: усё ў ім праўда. Проста ў лёсе гэтай жанчыны ўвасобіліся і сканцэнтраваліся праблемы, нягоды, пошукі выйсця і расчараванні многіх і многіх нашых сучаснікаў, людзей, якія раптам зрабіліся непатрэбнымі ў сённяшнім жыцці. Але нехта вельмі добра падмеціў: з лішніх людзей атрымліваюцца героі нашага часу... Памятаеце папулярную некалі фразу: лес сякуць -- трэскі ляцяць? Сітуацыя паўтараецца, нешта падобнае атрымліваецца і сёння, калі Марыя Пятроўна і такія, як яна, апынуліся ў становішчы тых самых "трэсак" -- непазбежных выдаткаў і страт, што міжволі суправаджаюць нас на імклівым і бадзёрым шляху да доўгачаканага рынку. А між тым, менавіта гэтыя людзі сумленна працавалі ўсё сваё жыццё, ствараючы тую самую сацыялістычную маёмасць, за прыватызацыю і валоданне якой у бліжэйшы час разгорнуцца сапраўдныя бойкі на аўкцыёнах, таргах і біржах. Але ж баюся, што ўсе гэтыя гульні сур'ёзных палітыкаў і багатых прадпрымальнікаў мала што зменяць у становішчы Марыі Пятроўны і соцень тысяч такіх жа людзей, пра лёс і жыццё якіх, як высветлілася, народныя выбраннікі маюць вельмі цьмянае ўяўленне. Хаця, час пакажа. А пакуль што -- расказ Марыі Пятроўны:

"Усё гэта пачалося з таго, што я аднойчы ўключыла радыё, дзе ішла трансляцыя сесіі Вярхоўнага Савета і дэпутат Ціхіня гаварыў, быццам газеты нашы пішуць лухту ўсялякую, накшталт таго, што, маўляў, людзі ў нас галадаюць. Паколькі асабіста я гэты самы голад і адчуваю, напісала пра гэта ліст яму, Зянону Пазьняку і Грыбу. А каб ліст мой не згубіўся і дэпутаты звярнулі на яго ўвагу, аднесла яшчэ адзін экземпляр у "Народную газету". Напісала пра сваю пенсію 125 тысяч рублёў, пра тое, што ў мяне двое сыноў: адзін -- студэнт, другі -- зараз беспрацоўны. Добра, што свая бульба ёсць, бо не ведаю, як бы мы інакш выжылі. Бульба, хлеб, часам малако -- вось наша асноўная ежа. Ведаеце, я цяпер больш за ўсё баюся, калі сярэднюю зарплату павышаюць. Адразу ўяўляю, не колькі мы зараз будзем грошай мець, а на колькі цэны ўзнімуцца. Атрымліваю я сваю павялічаную пенсію, іду ў магазін, гляджу на тавары і думаю: колькі ж разоў на дзень чалавек можа сказаць сабе "не"? Гэта купіць нельга, на гэта --не хопіць грошай, а пра гэта -- увогуле думаць не смей. А я -- жанчына ўсё ж такі. А для жанчыны такія рэчы, як пудра, губная памада ці новая сукенка, між іншым, такія ж прадметы першай неабходнасці, як хлеб і вада. Але дзе там! У меня -- двое сыноў, іх карміць трэба. Нядаўна недзе прачытала: калі вам не падабаюцца сённяшнія цэны, дык успомніце, як нядаўна паліцы былі зусім пустымі. А зараз -- хаця і дорага, але ўсё ёсць! Толькі для такіх, як я, ад таго, што гэтыя паліцы ад замежных прадуктаў трашчаць, нічога не змянілася. Я ўсё роўна па гэтых цэнах нічога купіць не магу. Я нават малако толькі ў бутэльках купляю, бо яно на 15 рублёў таннейшае за тое, што ў пакетах. На ўсім эканоміць даводзіцца... Вось таму я гэты ліст і напісала. А ў рэдакцыі мой зварот да дэпутатаў закрэслілі і зрабілі сваю прыпіску -- маўляў, дапамажыце, хто чым можа.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

СЁННЯ МОЙ субяседнік пісьменнік Кастусь Цвірка. Больш як саракагадовае знаёмства з ім з тых часоў, калі разам вучыліся ва універсітэце, дае мне права звяртацца да майго субяседніка неафіцыйна. Неяк незаўважна падышлі мы да паважных юбілеяў. Кастусь Цвірка ўжо адзначыў яго ў канцы сакавіка. Але гутарка гэта не толькі з нагоды юбілею. Хутчэй за ўсё таму, што мой субяседнік -- шчыры ў сваёй творчасці паэт, руплівы і адданы справе даследчык, які мае ўласную думку і ўласны погляд, якому ёсць што сказаць і якога цікава чытаць і слухаць.

**ПОЛЬСКАМОЎНЫЯ ПІСЬМЕННІКІ ЛЯ ВЫТОКАЎ СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ**

# АБ'ЯДНАНЫЯ АДНОЙ ІДЭЯЙ

## ГУТАРКА З ПІСЬМЕННІКАМ Кастусём ЦВІРКАМ

-- У адным тваім вершы, Кастусь, прачытала радок: "Мае гады -- вазы крутыя". Адразу падумалася: мусіць, усяго было ў жыцці ў гэтага чалавека.

-- Тут сапраўды ёсць нешта ад перажытага. І як многа было гэтага перажытага. Мы ж пакаленне пасляваеннае.

-- У 53-м, на пачатку вучобы, яшчэ моцна помнілася вайна.

-- І галадоўкі. На вёсцы асабліва.

-- А што яшчэ запомнілася з той пасляваеннай вёскі?

-- Многае помніцца. А найбольш такое: у вайну, нягледзячы на тое, што ноччу партызанам, а ўдзень немцам здавалі розныя пастаўкі, у людзей заставаўся хлеб, і яны неяк жылі. А ў 1944-м, пасля вызвалення, стала зусім кепска. У нас той год быў добры ўраджай, сяляне жалі, а потым усё абагулілі, звезлі ў калгаснае гумно, хлеб згніў -- і ні нам, ні дзяржаве. І далей душылі падаткамі, усё забіралі, на працадні нічога не давалі.

-- А калі стала лягчэй?

-- Ніколі!

-- Але ж потым не галадалі?

-- Не галадалі, але, як успамінаю, колькі маці памучылася, колькі здзекаваліся з яе чыноўнікі і калгасныя, і іншыя, дык і выказаць свой боль не магу.

-- А цяпер?

-- Цяпер яна памерла. Ёй ужо лёгка. А на вёсцы праблем хапае, як і раней.

-- Ці пісаў ты вершы, калі ў школе вучыўся?

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

ПРЭЗІДЭНЦКІЯ ГОНКІ

### В. КЕБІЧ ЗАРУЧЫЎСЯ ПАДТРЫМКАЙ ДЭПУТАТАЎ

**Ужо ў першы дзень работы нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета кандыдат у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч атрымаў неабходную колькасць галасоў (па Канстытуцыі неабходна не менш за 70) дэпутатаў, якія падтрымаюць яго вылучэнне. Збор подпісаў працягваецца і, паводле слоў парламентарыя Мікалая Скарыніна, які ўваходзіць у групу падтрымкі гэтага кандыдата, канчатковыя вынікі можна будзе назваць пазней.**

**Яшчэ два прэтэндэнты пачалі збор подпісаў. Гэта Генадзь Карпенка і Зянон Пазьняк. Мяркуючы па першых выніках, мэр Маладзечна ці атрымае неабходную колькасць галасоў, ці ўшчыльную падыдзе да гэтай лічбы. Што ж датычыць Зянона Пазьняка, то выйсці на рубеж 70 для яго, бадай, нерэальна. Зрэшты, мяркуючы па некаторых выказваннях, мэта прэтэндэнта -- высначыць, хто з парламенцкай апазіцыі падтрымае на прэзідэнцкіх выбарах яго кандыдатуру, а хто аддасць галасы за Станіслава Шушкевіча.**

СУСТРЭЧА З. ПАЗЬНЯКА

### З МІТРАПАЛІТАМ ФІЛАРЭТАМ

**У Мінску адбылася сустрэча паміж Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі Філарэтам і старшынёй Сойма Беларускага народнага фронта, народным дэпутатам Зянонам Пазьняком.**

**Былі абмеркаваны шляхі захавання грамадзянскага міру і згоды, роля праваслаўнай царквы і іншых традыцыйных беларускіх рэлігійных канфесій у працэсе адраджэння беларускай мовы, культуры, традыцый, духоўнасці і маралі. Мітрапаліт Філарэт і Зянон Пазьняк прыйшлі да разумення ва ўсіх пытаннях, якія павінны садзейнічаць станаўленню грамадзянскай еднасці і незалежнасці Беларусі. Гэта адна з першых запланаваных сустрэч прэтэндэнта на прэзідэнцкую пасаду Зянона Пазьняка з найбольш уплывовымі асобамі грамадскага і культурнага жыцця рэспублікі.**

*"Думаю, спроба тарпедаваць, пataпіць ідэю эканамічнага саюза дзвюх брацкіх дзяржаў наўрад ці ўдасца. Бо ў канчатковым выніку беларуска-расійскі дагавор адпавядае карэнным інтарэсам нашых народаў -- а гэта галоўнае. Дарэчы, паводле даных апытання, праведзенага апошнім часам шэрагам сацыялагічных службаў нашай рэспублікі, у тым ліку і незалежных, больш за 65 працэнтаў насельніцтва Беларусі выступае за аб'яднанне грашовых сістэм дзвюх дзяржаў.*

*Сёння і мне, і ўсім, хто падтрымлівае палітыку ўрада, накіраваную на стварэнне трывалага, працяглага саюза з Расіяй, даводзіцца нялёгка. Мы адчуваем жорсткі ціск з многіх бакоў. Тым не менш мы свой выбар зрабілі. І я гатовы давесці пачатае да канца, таму што глыбока пераканаы: толькі ў саюзе з Расіяй наш ратунак, ратунак нашай маладой суверэннай дзяржавы, у якой, я ўпэўнены, шчаслівa і вольна будуць жыць нашы дзеці і ўнукі, усе наступныя пакаленні".*

*Вячаслаў КЕБІЧ,*
*Старшыня Савета Міністраў Беларусі.*

ТАК З НАС ЖАРТУЮЦЬ РАСІЯНЕ




**Гэта жартоўная замалёўка была змешчана ў адной з самых папулярных газет "Аргументы и факты". Як бачна, датычыцца яна падпісанага дагавора аб аб'яднанні грашовай сістэмы Расіі і Беларусі. Ці патрэбны тут каментарыі!..**

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

### АБАПЕРЦІСЯ НА РАСІЙСКІ РУБЕЛЬ

**Для ўвядзення нацыянальнай валюты і забеспячэння яе бяспекі ў Беларусі сёння эканамічных умоў няма, лічыць намеснік Старшыні Савета Міністраў, міністр эканомікі Сяргей Лінг. Хоць тэхнічна, на яго думку, рэспубліка гатова да гэтага кроку. На думку Сяргея Лінга, каб адважыцца на ўвядзенне нацыянальнай валюты, трэба сама менеі не дапусціць памылак суседзяў па Садружнасці, валюты якіх "праваліліся" на працягу некалькіх тыдняў. Як заўважыў намеснік кіраўніка ўрада, для ўвядзення нацыянальнай валюты Беларусі неабходна стварыць умовы. Сярод іх -- мець валютны рэзерв ці залаты запас у памеры 500-700 мільёнаў долараў ЗША, якіх у рэспубліцы няма, прыпыніць спад вытворчасці, які, хоць і марудна, але працягваецца, дабіцца пакзчыка дэфіцыту бюджэту 2 працэнты. А ён сёння ў Беларусі, паводле даных міністра эканомікі, у тры разы большы. "Таму мы і зрабілі крок, каб у гэты перыяд абаперціся на расійскі рубель. Ну а далей жыццё пакажа...", -- заўважыў Сяргей Лінг.**

*"...І быццам нікому не зразумела, што сёння дзяржава -- гэта не комплекс сілавых міністэрстваў, не парламент, што вяла дыскутуе па непрынцыповых пытаннях і ўжо тым больш -- не наяўнасць на некаторай тэрыторыі пана прэзідэнта. Дзяржава -- гэта магчымасць праваддзення самастойнай эканамічнай палітыкі... Пытанне ў задачы: ці мае сэнс гаварыць пра незалежную дзяржаву Беларусь.*

*Нацбанк Беларусі ў гэтых умовах павінен зліцца з ЦБР -- гэта лагічна. Аднак нацыянальны, цэнтральны ці як-яго-яшчэ-назаві банк любой краіны ёсць не што іншае, як фізічнае ўвасабленне дзяржбюджэту. Гэта значыць, якімі фігавымі лісткамі асобнага вядзення разлікаў ні прыкрывайся, бюджэт у Расіі і Беларусі будзе агульны".*

*("Новая ежедневная газета", 16.04.94,*

НЕЗАЛЕЖНА І АБ'ЕКТЫЎНА

### НОВАЯ ПАСАДА С. ШУШКЕВІЧА

**Былы Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіслаў Шушкевіч заступіў на новае месца працы. Ён прызначаны дырэктарам цэнтра палітычных і эканамічных даследаванняў Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта (ЕГУ). Ён уключае тры інстытуты -- палітычных, эканамічных і псіхалагічных даследаванняў. Зараз сумеснымі намаганнямі гэтых структур распрацоўваецца комплексная праграма па рэфармаванню эканомікі Беларусі, да якой прыцягнуты лепшыя навукоўцы.**

**-- Хачу запэўніць, -- заявіў С. Шушкевіч, -- што ніякіх замежных сродкаў на работу нашага цэнтра не выдзяляецца.**

**Кіраўнікі многіх новаспечаных зараз цэнтраў падтрымліваюць афіцыйныя структуры, словам, тых, хто ім плаціць. Мы ж ставім перад сабой мэту займацца менавіта незалежнымі і аб'ектыўнымі даследаваннямі, якія б на самай справе спрыялі эфектыўнаму рэфармаванню эканомікі нашай маладой і незалежнай краіны.**

ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ



**"Чарнобыльскі шлях" -- так названа дабрачынная акцыя, прымеркаваная да 8-й гадавіны катастрофы на ЧАЭС. Яе маршрут пралёг праз раёны, якія найбольш пацярпелі ад радыяцыі. Падтрымаць людзей, працягнуць ім руку дапамогі, яшчэ раз нагадаць свету аб страшнай бядзе і вырашылі майстры мастацтваў, прадстаўнікі творчых саюзаў рэспублікі.**

**НА ЗДЫМКУ: кампазітар Ігар ЛУЧАНОК і дырэктар аб'яднання творчых саюзаў моладзі Рэспублікі Беларусь Кацярына КОПЕЛЕВА з перасяленцамі з Брагінскага раёна.**

ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА

### Г. ТАРАЗЕВІЧ -- ПАСОЛ У ПОЛЬШЧЫ

**Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Георгій Таразевіч, які да апошняга часу працаваў намеснікам Міністра замежных спраў, прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча.**

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

БЕЛАРУСІ прыходзіцца расходаваць вялікія грошы на скарачэнне звычайных узбраенняў. Ліквідацыя толькі аднаго баявога танка "пажырае" 2--3 тысячы долараў. Усяго ж мы павінны знішчыць 2 500 танкаў, пакінуўшы на ўзбраенні 1 800.

СТАРШЫНЯ парламенцкай Камісіі па заканадаўству Дзмітрый Булахаў лічыць "яўна небездакорнай" прававую аснову дагавора з Расіяй аб аб'яднанні грашовых сістэм. За "ісціну" выдаюцца толькі намеры. "Працягнуць гэты дагавор, грунтуючыся на праве, на прававой структуры заканадаўства Рэспублікі Беларусь, -- немагчыма".

НАРЭШЦЕ Мінгарвыканком прыняў рашэнне аб статусе плошчы Незалежнасці сталіцы. Згодна з Часовым палажэннем, на ёй дазволена толькі правядзенне дзяржаўных рытуалаў, мерапрыемстваў, прысвечаных дзяржаўным святам, а таксама "іншых мерапрыемстваў па ўстаноўленым законам парадку". Пра мітынгі і забастоўкі ніякіх згадак.

ДА 2-х тон золата ў год можна здабываць у Беларусі. Радовішчаў яго няма, але шляхам перапрацоўкі пясчана-гравійных сумесяў можна атрымліваць золата. Прынамсі, такія сумесі маюцца ў раёне Мінска і Оршы.

"МАГІЛЁЎСКАЯ даўніна" -- так называецца гісторыка-краязнаўчы часопіс, першы нумар якога нядаўна выйшаў у свет. Новае выданне нібы пераняло эстафету альманаха такога ж зместу, што выдаваўся ў Магілёве пад рэдакцыяй вядомага Еўдакіма Раманава ў 1898--1903 гадах.

ДЗЯРЖАЎНЫ ландшафтны заказнік "Прастыр" ствараецца ў Пінскім раёне. Ён зойме плошчу 3 340 гектараў у міжрэччы Прыпяці і Прастыры. Мэта яго -- захаваць эталонны ўчастак прыродных балотна-лугавых угоддзяў з багатай раслiннасцю і жывёльным светам, які ўключае многія рэдкія віды флоры і фауны.

ГУМАННАСЦЬ

**Па ініцыятыве МУС Рэспублікі Беларусь, Беларускага Экзархата праваслаўнай царквы і рэлігійнай арганізацыі з ЗША на базе Акадэміі міліцыі прайшлі курс навучання свяшчэннаслужыцелі, якія будуць працаваць у месцах зняволення.**

**Аблягчыць душэўныя пакуты асуджаных, палепшыць маральную атмасферу, накіраваць людзей на шлях выпраўлення -- такімі гуманнымі пачуццямі будуць кіравацца свяшчэннікі пры правядзенні службаў. Першая адбылася ў турмах напярэдадні Вялікадня.**

**НА ЗДЫМКУ: свяшчэннікі, якія пачалі працаваць у турмах.**









# ЧАРНОБЫЛЬ -- НАШ АГУЛЬНЫ БОЛЬ

**Восем год прайшло з дня чарнобыльскай трагедыі. Але боль ад тых страшных красавіцкіх дзён, калі ў спешцы даводзілася пакідаць роднае гняздо, жывая да сёння. Таму і цягнуцца ў былыя мясціны перасяленцы. І самасёлаў, так іх называюць, усё прыбывае.**

**Ну а іншыя абжыліся ў новых месцах. Ужо працуюць, маюць гаспадаркі. Але сум па радзіме дае пра сябе знаць. Вось і статыстыка гаворыць, што працэнт смяротнасці ў перасяленцаў крыху вышэйшы, чым у тых, хто застаўся жыць на забруджанай радыенуклідамі тэрыторыі. Адбіваецца псіхалагічны неспакой, а прасцей -- боль душы.**

**За гэтыя гады нямала зроблена для аздараўлення людзей, па прафілактыцы захворванняў. Але, вядома, далёка не ўсе дадзеныя з высокіх трыбун абяцанні выкананы, не ўсё намечанае ажыццёўлена.**

**І як вечны дакор чалавечаму сумленню стаяць і сёння мёртвыя вёскі, у якіх ужо ніколі не зацепліцца жыццё. Спіць зямля, пасыпаная чарнобыльскім попелам.**

**Не дай Бог такому паўтарыцца!**

**НА ЗДЫМКАХ: кожны раз вяртаюцца гэтыя птушкі ў родныя мясціны; знайшоў сабе занятак былы бомж Уладзімір КАНДАКОЎ. У зону ён прыбыў з Расіі, доўга бадзяўся тут, палохаючы нешматлікіх жыхароў. Цяпер працуе вартаўніком, ветла адчыняючы вароты жадаючым трапіць у зону адчужэння; сярод тых, хто так і не захацеў пакінуць родныя мясціны, гэтыя трое. Калі многія службовыя асобы разбегліся, хто куды, застаўся на сваёй пасадзе старшыня Хойніцкага райвыканкома Алег АКУШКА (злева). Многа гадоў прапрацаваў у Тульгавіцкім прыходзе і свяшчэннік Іван БУРЛЕЙ. Заўсёды з ім і яго жонка Ефрасіння Іванаўна.**

**Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.**

# А ЛЮДЗІ Ж НЕ ТРЭСКІ...

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Вельмі гэта мяне абразіла, бо калі пісала пісьмо, добра ведала, што шмат людзей жывуць горш за мяне. Але пісьмо маё надрукавалі, і адразу пачаліся званкі: людзі абураліся: мы жывём куды горш за вас, але ў газеты не скардзімся! Вы яшчэ добра жывяце, а што рабіць нам?.. Але ўсё ж такі людзі ў нас вельмі добрыя, многія прапанавалі дапамагчы. Адна жанчына са Жлобіна даслала 30 тысяч. Я ёй тут жа напісала, што вельмі ўдзячная за жаданне дапамагчы, але я яшчэ не самая бедная, лепш перашліце гэтыя грошы маёй хворай сяброўцы. Пазванілі незнаёмыя жанчыны, папрасілі: зайдзіце, вазьміце невялікі гасцінец, што мы вам прыгатавалі. Стала я адмаўляцца, я ж міласціны не прасіла, а яны гавораць: усё мы разумеем, але ад шчырага сэрца просім -- вазьміце, зараз вы ў цяжкім становішчы, а заўтра мы ў такім жа можам апынуцца. Тады, можа, вы нам дапаможаце. Яшчэ адна жанчына прынесла мне адзенне -- плашч, паліто і паўшарсцяны касцюм. Я ніколі не думала, што змагу ўзяць чужыя рэчы, але яна так далікатна і па-добраму прапанавала, што я падумала: грэх адмаўляцца, чалавека абражу. Да таго ж, рэчы гэтыя -- якраз на мяне! І так я адразу на іх настроілася, вельмі яны мне даспадобы прыйшліся.

А потым пайшла я здаваць бутэлькі з-пад малака і ўбачыла перад сабою жанчыну, якую часта сустракала на вуліцы. Ведала пра яе толькі, што яна адзінокая і многа хварэе. Прыгледзелася да яе -- чысценькая, акуратная, але ўсё адзенне такое старое, такое замытае, што нават не зразумець, якога яно раней было колеру. І стала мне сорамна: я ж яшчэ не зусім бедная, магу нешта сабе перашыць са старых рэчаў. А што ёй рабіць? І аддала я гэтай жанчыне ўсё тое адзенне. Увогуле, можна было б і жыць, але тут якраз дэпутаты новую пастанову прынялі -- у каго ўзрост набліжаецца да пенсійнага, а яго звольнілі па скарачэнню штатаў, той мае права ці толькі пенсію атрымліваць, ці -- калі ўладкуецца зноў -- адну зарплату. А я тады працавала вахцёрам у інтэрнаце Дзяржтэлерадыё, дзе мне плацілі 54 тысячы рублёў. Да пенсіі мне засталося зусім нямнога, некалькі месяцаў -- і пасля прыняцця гэтай пастановы мяне скарацілі. Як ні прасіла -- дайце дапрацаваць, нічога не атрымалася. Напэўна, за кошт такіх, як я, палепшылася наша жыццё...

Ды і ўвогуле, пасля гэтага пісьма раптам стала ўсё на мяне валіцца: зламала руку, пайшла з працы, сын захварэў на Боткіна, чатыры тыдні праляжаў у бальніцы, зараз выпісаўся -- страшны, худы, яго добра карміць трэба, а ў мяне грошай няма. Затое атрымала адказ на мой ліст ад Старшыні Вярхоўнага Савета Грыба. "Пісьмо ваша, -- пішуць, -- атрымалі, дзякуем за вашы заўвагі, улічым вашы прапановы". Якія заўвагі? Якія прапановы? Так я нічога і не зразумела. Чым такі адказ, дык лепш бы ніякага не было. Але ж трэба нешта рабіць, і я пайшла ў Чырвоны Крыж. Там мне прапанавалі нейкае старое адзенне і параілі звярнуцца ў рэспубліканскі Савет прафсаюзаў. Да самога Ганчарыка я не трапіла, давялося размаўляць з яго намеснікам. Я яму і расказала, што прапрацавала 36 год і нічога не напрацавала. Зараз мяне скарацілі, жывём вельмі цяжка, галадаем, няма чым сына пасля хваробы падтрымаць. Ён мяне выслухаў і гаворыць: збярыце дакументы, схадзіце на сваё былое месца працы, хай там складуць акт, потым прынесяце гэта да нас, і мы акажам вам матэрыяльную дапамогу ў суме 10 тысяч рублёў. Але ж за гэтыя грошы нават кілаграм мяса нельга купіць!

І такі мяне ахапіў адчай, што вырашыла я пайсці ў Вярхоўны Савет. У той дзень адкрывалася вясновая сесія. Пайшла я да Дома ўрада, увайшла ў вестыбюль, а міліцыянеры, нягледзячы ні на тое, што я жанчына, ні на тое, што ў мяне зламаная рука, выкідваюць мяне адтуль і ўсё! А дэпутаты міма праходзяць і адводзяць вочы, нібы нічога і не бачаць. Я жанчына веруючая і ведаю, што без Божай дапамогі нічога не атрымаецца. І ў той момант ад нясцерпнага болю за маё беспрасветнае і безнадзейнае жыццё як закрычу: "Людзі добрыя! У каго ёсць Бог у душы, дапамажыце,правядзіцемяне!Я жтолькі хачу дэпутатам расказаць, як я жыву!" Ніхто на мяне нават не паглядзеў, і толькі адзін дэпутат, што праходзіў міма, кінуў мне праз плячо: ішла б ты да свайго Бога, у нас такіх, як ты, многа тут бывае... Маўляў, не перашкаджайце працаваць для народа. Дзіўна, але я неяк адразу пасля гэтага супакоілася. Мабыць, зразумела, што і тут няма чаго шукаць. Дэпутаты любяць і заўважаюць свой народ толькі падчас выбарчай кампаніі. Не ведаю, напэўна, калі глядзець на тое, што па вуліцах ездзяць амаль адны замежныя машыны, а ў магазінах -- дарагія далікатэсы і моднае адзенне, складзецца ўражанне, што ў гэтай краіне жывуць вельмі багатыя людзі. Але ж такіх, як я, -- таксама многа! Я раней такой актыўнай, неспакойнай была, усё верыла, што можна праўды дабіцца, нешта змяніць, палепшыць. А зараз... Зараз я нават думаю, што гэта Божая воля была -- каб я напісала такое пісьмо, а потым усё на мяне навалілася -- звальненне, хвароба сына, зламаная рука. Можа, гэта пакаранне за тое, што я наракаць адважылася, а можа, спецыяльна, каб у рэшце рэшт упэўнілася, што нічога ў маім жыцці ўжо не зменіць. Не ведаю..."

**Запісала Вераніка ЧАРКАСАВА.**

ДЛЯ КНІГІ РЭКОРДАЎ ГІНЕСА

# ПАШПАРТ ААН? АФЕРА!

Усё менш і менш застаецца рэчаў, якія маглі б здзівіць. Але аб'ява, убачаная некалькі дзён таму на сцяне вагона мінскага метро, уразвала: камерцыйная структура, прадбачліва не ўказаўшы сваёй назвы і адрасу, прапаноўвала любому, хто пажадае, аформіць пашпарт Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, "пашпарт Грамадзяніна Свету, які прызнаны ў 189 краінах". Дух займала ад фантастычнай перспектывы: забыўшыся пра візы, нібы вольная птушка, лётаць па свеце, не зважаючы на межы.

І вось я набіраю названы ў аб'яве нумар. Аказваецца, для таго каб атрымаць гэты чароўны дакумент, трэба зусім няшмат: дзве запоўненыя анкеты, грамадзянскі пашпарт і адбіткі маіх пальцаў. І ўсяго праз месяц пашпарт будзе гатовы! Што ён дае? Пасля невялікай замінкі малады чалавек на другім канцы правада адказаў: свабодны бязвізавы праезд па некаторых краінах Еўропы. А як жа абяцаныя 189 краін? Але, напэўна, усяго за 380 долараў, якія каштуе такі пашпарт, гэта ўжо было б зашмат.

Шчыра кажучы, аб'ява выклікала шмат пытанняў, размова з прадстаўніком "камерцыйнай структуры" -- яшчэ больш. Таму я і вырашыла звярнуцца туды, дзе мне маглі даць найбольш поўную, аб'ектыўную і дакладную інфармацыю наконт гэтага пытання -- у прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Беларусі да намесніка прадстаўніка ААН у нашай рэспубліцы Валерыя ТКАЧУКА.

Вось што ён сказаў на гэты конт:

-- Кожнае мерапрыемства ці выступленне пад флагам ААН павінна быць абумоўлена з прадстаўнікамі гэтай арганізацыі, бо любая справа, якой ААН дае сваю марку, павінна быць чыстай, годнай гэтага, у ёй не можа быць ніякай камерцыйнай зацікаўленасці. Да гэтай жа акцыі ААН не мае ніякага дачынення. Што тычыцца ўласна пашпартоў ААН -- дык такі дакумент існуе і мае назву "лісэз-пасэ", што ў перакладзе з французскай азначае "пропуск", а не пашпарт. Так ён называецца і ў самім дакуменце, і ў "Палажэнні аб пропусках ААН", таму пашпарта ААН, як такога, на самай справе проста не існуе. Гэты пропуск дае магчымасць супрацоўніку ААН, які едзе па справах арганізацыі, хутчэй атрымаць візу, правозіць з сабою без дагляду службовыя дакументы і паперы. Але ж самае галоўнае, гэты пропуск выконвае функцыі пашпарта толькі ў некаторых краінах. Ён дае права ўезду, напрыклад, у Швейцарыю, але ж у ЗША ў мяне запытаюць нацыянальны пашпарт, і віза павінна ставіцца ў ім. Тое ж самае тычыцца Францыі і многіх іншых краін. Ні адна арганізацыя, акрамя ААН, не можа выдаць такі пашпарт ніводнаму чалавеку, які не з'яўляецца яе супрацоўнікам. Што датычыцца статуса Грамадзяніна Свету, то ён ніяк не звязаны з ААН. Я нідзе і ніколі не сустракаў палажэння аб пашпарце Грамадзяніна Свету. Гэта ўвогуле паняцце гуманітарнага характару, нешта накшталт "ганаровы сябра"...

Пад канец нашай размовы я запыталася ў Валерыя Валянцінавіча, ці існуе ўвогуле ў свеце дакумент, які дазваляў бы хаця б некаму свабодны бязвізавы ўезд у 189 ці менш краін?

-- Я пра такі дакумент ніколі не чуў. Магу сказаць, што ўезд нават вышэйшых дзяржаўных асоб у іншыя краіны па запрашэнню прэзідэнтаў і каралёў рэгулюецца пэўным пашпартным рэжымам. Іншая справа, што ім будзе аказвацца ўсялякае садзейнічанне, але гэта не значыць, што іх будуць пускаць у краіну без пашпартоў і віз.

Калі я папрасіла Валерыя Валянцінавіча пракаментаваць аб'яву, убачаную мною ў метро, ён сказаў, што ставіцца да паслуг такога роду з гумарам, бо ў камерцыйнай эйфарыі, якая зараз захлінула грамадства, існуе шмат чаго цікавага. Ну навошта сёння, калі нармальны замежны пашпарт можа атрымаць любы чалавек, звяртацца ў камерцыйную структуру, каб за вялікія грошы купляць нейкі незразумелы дакумент? Мне шкада тых, хто адгукнецца на гэтую аб'яву, -- дадаў Валерый Валянцінавіч, -- і яшчэ крыху -- сябе.

-- А сябе -- чаму? -- здзівілася я.

-- Ды таму, што калі гэтыя людзі ў рэшце рэшт зразумеюць, што іх падманулі, за тлумачэннем і дапамогай яны прыйдуць да нас, у прадстаўніцтва Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у Беларусі. Мы ж зможам толькі паспачуваць ім...

Мы так прывыклі апошнім часам да таго, што за грошы прадаецца і купляецца літаральна ўсё, што гатовы прыняць на веру самую неверагодную прапанову. Плаці грошы -- і ўвесь свет у кішэні! Вось толькі што рабіць чалавеку, калі ён са сваім ліпавым пашпартам, па якому яму абяцалі бязвізавы праезд, апынецца на мяжы дзяржавы, дзе ніхто пра такія купленыя прывілеі нават не чуў? Не здзіўлюся, калі хутка ўбачу на сцяне вагона метро аб'яву, дзе камерцыйная структура прапануе ўсім, хто жадае, набыць адпушчэнне грахоў, вечнае шчасце і права на бязвізавы праезд у рай. Ведама ж, за СКВ...

**В. АНАТОЛЬЕВА.**

У БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ

## БРАВА, ФІЁНА!



**Апошнімі гадамі, калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, усё больш аўстралійцаў звяртаюцца да Алеся Алехніка -- генеральнага сакратара "Беларускага аб'яднання Аўстраліі". Іх цікавіць, што за краіна -- Беларусь, як там жывуць людзі, просяць даць інфармацыю пра найбольш важныя падзеі. З усіх просьбаў, якія Алесь Алехнік атрымаў за апошні год, адна заслугоўвае асаблівай увагі.**

**У ліпені 1993 года да Алеся патэлефанавала з недалёкага ад Сіднея горада Гасфорд спадарыня Полак. Паведаміўшы, што факультэты вышэйшых навучальных школ арганізуюць конкурс народных танцаў розных краін свету, спадарыня Полак сказала: яе дачушка Фіёна выбрала "сваёй" краінай Беларусь. І папрасіла даць інфармацыю пра нашу дзяржаву, а таксама паказаць ім беларускі дзявочы народны ўбор.**

**Узрадаваны Алесь падзякаваў ім за выбар ды запрасіў Фіёну і яе бацькоў да сябе ў госці. У нацыянальным беларускім уборы Фіёна выглядала сапраўды прыгожа!**

**Конкурс народных танцаў краін свету прайшоў вельмі ўдала, і "наша" Фіёна Полак з вялікім гонарам і поспехам рэпрэзентавала Беларусь. Яна заняла першае месца на Правінцыяльных аглядах танцаў і другое нават -- на Цэнтральным аглядзе ў Сіднеі. Алесь Алехнік і ўся беларуская грамада горада Сіднея шчыра віншуе Фіёну Полак і выказвае ёй і яе бацькам глыбокую падзяку!**

**Залучаны фотаздымак паказвае нашу "беларускую" Фіёну ў пашытым на скорую руку беларускім народным уборы перад пачаткам конкурсу.**

**А.А.**

*СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ*

# ЗЯРНЯТЫ, ЯКІЯ ПАСПЕЛІ ПАСЕЯЦЬ, КАЛОССЯМІ ЎЗРАСТУЦЬ

22--23 красавіка ў сталічным Доме літаратара адбылася Першая сустрэча беларускай моладзі свету. Яе ініцыятарамі і арганізатарамі выступілі маладзёжныя арганізацыі -- Задзіночанне беларускіх студэнтаў, Аб'яднанне беларускіх скаўтаў, Саюз беларускай каталіцкай моладзі, маладзёжная філія БНФ, Беларускае аб'яднанне студэнтаў з Беласточчыны.

Адкрыў нараду старшыня Арганізацыйнага камітэта Яўген Ляпарскі, які падкрэсліў, што, на думку арганізатараў, падзець такія мерапрыемствы павінна быць прэрагатывай дзяржавы. Пакуль што беларуская моладзь сама аб'ядноўваецца і згуртоўваецца. Тым не менш, ён выказаў шчырую падзяку за падтрымку і дапамогу ўсім дзяржаўным установам, якія бралі ўдзел у наладжванні сустрэчы: Камітэту па справах моладзі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь, Міністэрствам адукацыі, замежных спраў, культуры і друку. (Таварыства "Радзіма", напрыклад, аплаціла транспартныя выдаткі дзесяці ўдзельнікаў з Польшчы). Большая ж частка фінансавых расходаў была пакрыта камерцыйнымі структурамі, сярод якіх, як заўсёды, фірма "Дайнова", фінансава-інвестыцыйная кампанія "Fico" і іншыя.

Старшыня згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" спадарыня Ганна Сурмач у сваім прывітальным слове да ўдзельнікаў сустрэчы адзначыла, што менавіта прысутнасці маладога пакалення не хапала на Першым з'ездзе беларусаў свету і вельмі суцяшальна, што ў наш складаны час моладзь Беларусі і беларускага замежжа аб'ядноўваецца ў сваёй дзейнасці.

Да амаль што 200 дэлегатаў нарады, якія прадстаўлялі каля 20 маладзёжных арганізацый краін СНД, Балтыі і Польшчы, звярнуўся і лідэр апазіцыі народнага фронта ў Вярхоўным Савеце Зянон Пазьняк. Перш, што ён падкрэсліў, -- гэта тое, што час сёння вызначальны. Падзеі ў краіне вельмі ўскладніліся пасля падпісання 12 красавіка вышэйшымі кіруючымі коламі дзяржавы пагаднення з Расіяй з парушэннем аж шасці артыкулаў Канстытуцыі Беларусі. "Адзіная ідэя, якая можа зараз аб'яднаць усё грамадства цалкам -- гэта ідэя дзяржаўнай незалежнасці. Калі гэта дзяржава будзе страчана, ужо ніякія мары, ніякія планы, ніякія ідэі не змогуць быць здзейснены. Гэта трэба ўсвядоміць. Менавіта моладзь павінна вырашаць, у якой дзяржаве ёй жыць, якой быць нашай Бацькаўшчыне".

Далей праца праходзіла па парадку дня. Працавалі тры секцыі: культура і адукацыя, турызм і краязнаўства, маладзёжнае прадпрымальніцтва.

Напрыканцы сустрэчы дэлегаты прынялі наступныя дакументы: "Зварот да беларускай моладзі", "Заява аб палітычным становішчы ў Беларусі", "Пастанова аб Выканаўчым камітэце сустрэчы і яго задачах".

**Таіса БАНДАРЭНКА.**



**НА ЗДЫМКУ: дэлегаты Першай сустрэчы беларускай моладзі свету.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

## НАВІНЫ МІЖНАРОДНАЙ АСАЦЫЯЦЫІ БЕЛАРУСІСТАЎ

### З ДУМКАЙ ПРА НАСТУПНЫ КАНГРЭС

Адбылося пасяджэнне бюро Міжнароднага камітэта беларусістаў, на якім ішла гаворка пра наступны, другі форум прыхільнікаў нашай культуры. Было прапанавана правесці яго ў Мінску ў маі ці верасні 1995 года і прысвяціць узаемадзеянню беларускай культуры (у шырокім яе сэнсе -- з уключэннем літаратуры, мовы, гісторыі, мастацтва, фальклору) з культурамі іншых народаў, прысутнасці яе ў свеце. Асаблівую ўвагу мяркуецца звярнуць на ўзаемадачыненні з суседзямі -- Латвіяй, Літвой, Польшчай, Расіяй, Украінай. Культурнаму памежжу з імі будуць прысвечаны асобныя пасяджэнні. З такімі прапановамі бюро вырашыла выйсці на пасяджэнне камітэта, якое адбудзецца ў сярэдзіне чэрвеня, у час беларуска-амерыканскай навуковай канферэнцыі.

На пасяджэнні была заслухана таксама справаздача навукова-вытворчага цэнтра "Аднова", створанага па ініцыятыве МАБ. З ёю выступіў дырэктар цэнтра Аляксей Кудрэйка.

Вядомаму беларускаму філосафу Уладзіміру Конану, які ўзначальвае нацыянальную асацыяцыю, у сувязі з яго 60-годдзем было нададзена званне Ганаровага сябра МАБ.

### ПРА ДЗЯЦІНСТВА НА МАЛАДЗЕЧАНШЧЫНЕ

Вядомы польскі філолаг і празаік Збігнеў Жакевіч (Гданьск) выдаў у Кракаве сваю новую кніжку "Вілія, у глыбінях мора". Гэта белетрызаваныя ўспаміны аўтара пра гады дзяцінства, якія прайшлі ў ваколіцах Залесся і Смаргоні -- над берагамі Віліі. Мова персанажаў густа перасыпана каларытнымі беларусізмамі.

"Вілія, у глыбінях мора" -- ужо трэцяя кніжка папулярнага пісьменніка, прысвечаная родным беларускім мясцінам.

**А. БЕЛАВУСАВА, рэферэнт МАБ.**

1

З канца XVIII стагоддзя на еўрапейскім кантыненце пачынаецца станаўленне сучаснага цывілізаванага жыцця. Паскараецца тэхнічны прагрэс. Шпарка расце прамысловасць і гандаль. Асноўнай крыніцай дабрабыту людзей замест земляробства паступова становіцца гандлёва-прамысловая дзейнасць. Калі раней абагачэнне трымалася пераважна на сілавым прымусе (прыгон, войны), то надалей культ сілы паступова саступае месца культу майстэрства ў вытворчай сферы. У жыццядзейнасці людзей узмацняецца важнасць асобы. Ідэалы свабоды, роўнасці і братэрства набываюць агульначалавечую каштоўнасць і кладуцца ў аснову змагання за правы чалавека. Ва ўмовах фарміравання рыначных адносін і сусветнай эканомікі найбольш канкурэнтаздольнымі робяцца нацыянальныя супольнасці, дзяржаўна згуртаваныя нацыі. Імперыі — адны хутчэй, іншыя павольней — распадаюцца. На іх месцы ўзнікаюць незалежныя нацыянальныя дзяржавы. Канчаткова складваецца літаратурная мова і класічнае мастацтва. Расце моўна-культурная еднасць і самасвядомасць нацый.

Пераходны перыяд да рыначных адносін, да нацыянальнай незалежнасці, да культурнага адраджэння і да гарантаваных правоў чалавека цягнецца вось ужо два стагоддзі. І толькі разгром фашысцкіх і распад камуністычных рэжымаў стварае спрыяльныя ўмовы для ўступлення ўсёй Еўропы ў эпоху майстэрства і чалавечай годнасці.

Пад агульнаеўрапейскае развіццё падпадала і Беларусь, але мела ў ім асабістыя шлях, асабістыя этапы.

2

## 1. ЯК НАС ДАЛУЧАЛІ ДА РАСІІ

У апошнія дзесяцігоддзі XVIII стагоддзя ў жыцці нашага народа адбыліся вялікія перамены. Ён канчаткова страціў сваю дзяржаўнасць і апынуўся ў царскай няволі. Як жа гэта адбылося?

### 1.1. Абвастрэнне крызісу і замежная экспансія.

**ПРЫЧЫНЫ ЗАНЯПАДУ.** Войны з Расіяй аслаблялі Вялікае Княства Літоўскае — некалі магутную дзяржаву двух сучасных народаў: беларускага і літоўскага. Федэратыўна-дзяржаўны саюз Княства з Польшчай пад назвай Рэч Паспалітая ператвараўся ў ярмо. З-за самавольства шляхты ні кароль, ні сейм варшаўскі не маглі паспяхова кіраваць краінай. Шляхцічы мелі права складаць канфедэрацыі (ваенныя саюзы), законна бунтаваць супраць караля, калі той дзейнічаў супраць іх жаданняў. Любы прадстаўнік першага саслоўя ў сейме мог не дапусціць прыняцця рашэння. Для таго яму дастаткова было заявіць — liberum veto ("не дазваляем"). Асабліва бездакзана паводзілі сябе магнаты. У большасці сваёй разбэшчаныя неабмежаванай уладай і дармавым, дабытым працай прыгонных багаццем, яны мала клапаціліся аб эканамічным развіцці краю і яго палітычнай магутнасці.

Аслаблялі Вялікае Княства Літоўскае і ўзрастаючыя рэлігійныя сваркі. Каталікі ўціскалі

3

праваслаўных. Гэта давала падставу Расійскай імперыі, якая пасля перамогі ў Паўночнай вайне стала адной з самых мілітарызаваных дзяржаў у Еўропе, умешвацца ва ўнутраныя справы Рэчы Паспалітай у ролі абаронцы праваслаўных. І тут асабліва вялікія поспехі рабіла Кацярына II (1762—1796). А з другога боку, і кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Панятоўскі, які правіў пад імем Станіслава Аўгуста (1764—1795), каб навесці ў краіне хоць нейкі парадак, вымушаны быў звяртацца за дапамогай да манархаў суседніх дзяржаў. Найчасцей ён прасіў падтрымкі ў расійскай імператрыцы, бо некалі быў яе фаварытам і фактычна атрымаў з рук царыцы каралеўскі трон. І дзеля таго ў 1764 годзе рускае войска прайшло праз нашыя землі на Варшаву.

**ПАЧАТАК АГРЭСІІ ПАД СЦЯГАМ РЭЛІГІЙНЫМ.** Ужо ў 1768 годзе, абапіраючыся на Слуцкую канфедэрацыю, Кацярына II прымусіла сеймураўнаваць у правах праваслаўных з католікамі. Праўда, хутка спатрэбілася зноў ужыць сілу. Наступнае ўварванне адбылося ў 1771 годзе, калі Кацярына рукамі Мікалая Рэпніна разагнала канфедэрацыю ва ўкраінскім горадзе Бары, якая выступала за вяртанне католікам былых прывілеяў. Але папярэдне царыца задушыла паўстанне сваіх аднаверцаў, украінскіх сялян (гайдамакаў), супраць каталіцкіх паноў. У Вялікім Княстве Літоўскім барскіх канфедэратаў падтрымаў вялікі гетман Агінскі, але і яго 2-тысячнае войска было разбіта.

Пасля гэтага Расія і яе хаўруснікі Прусія і Аўстрыя ў наступным 1772 годзе падзялілі між сабой значную частку Рэчы Паспалітай. Руска-

4

му двару дасталіся землі Вялікага Княства Літоўскага, што ляжалі прыкладна на ўсход ад Дняпра і на поўнач ад Заходняй Дзвіны. І з гэтага часу наш край на стагоддзі ператвараўся ў прадмет гандлю для суседніх дзяржаў.

**ПЕРАД ВЫБАРАМ.** Пагроза суседзяў прымушала мясцовую шляхту прымаць адказнае рашэнне, бо ёй належала ў грамадстве вядучая роля. Скарыцца Расіі, моцная ўлада якой гарантавала б надзейны парадак? Шукаць выйсце на шляху адраджэння поўнае незалежнасці Вялікага Княства Літоўскага, бо саюз са старой Польшчай не выратоўваў? А можа рэфармаваць Рэч Паспалітую па прыкладу Францыі і згуртавацца разам з палякамі, літоўцамі і ўкраінцамі перад знешняй небяспекай? Меняваліся гэты погляд і пераважаў сярод польскай арыстакратыі. Сваёй плынню ён захапіў і шляхту Вялікага Княства Літоўскага. Прарасійскую партыю аслабляла тое, што Кацярына II занялася вайной з Турцыяй і Швецыяй. А для адраджэння Вялікага Княства Літоўскага ў мясцовых паноў не хапала ні сілы, ні жадання. Іх нацыянальная самасвядомасць яшчэ толькі зярняткам ляжала пад тоўстым слоем паланізму.

**ШКОЛЬНАЯ РЭФОРМА.** У шляхецкім асяроддзі пераважала пачуццё грамадзянскай адказнасці за захаванне Рэчы Паспалітай. Знайшліся цвярозыя галовы, якія выратаванне дзяржавы бачылі ў рэформах. Яны і пачаліся са школьнай справы. У 1773 годзе была створана Эдукацыйная Камісія, ці міністэрства адукацыі, якое стала першым у Еўропе. Цікава, што да рэформаў у галіне адукацыі мелі непасрэднае

Захар ШЫБЕКА

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX — XX СТАГОДДЗЯХ

(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)

5

дачыненне арыстакраты не толькі з Польскай Кароны. Думку аб стварэнні Эдукацыйнай Камісіі падаў апошні канцлер Вялікага Княства Літоўскага граф Іахім Храптовіч. Яго бліжэйшым памочнікам быў пісар літоўскі Ігнацій Патоцкі. Камісію ўзначальваў віленскі епіскап князь Ігнацій Масальскі.

Пасля закрыцця ордэна езуітаў (1773 год) іх школы і фундушы (гэта значыць маёнткі, прыбыткі ад якіх ішлі на адукацыю) перайшлі ў рукі дзяржавы. Манаполія царквы на асвету парушаласа. Побач з царкоўнымі ствараліся свецкія дзяржаўныя навучальныя ўстановы. Пачалі ўзнікаць і першыя прыватныя школы для дзяўчынак. Праграмы для выкладання ў свецкіх школах былі шматпрадметнымі, набліжанымі да практычнага жыцця. Уводзілася вывучэнне маральнасці, эканомікі, права палітычнага, гісторыі мастацтва, рамёстваў, гігіены, земляробства, гароднінцтва, ваенных практыкаванняў і інш. Часам у школах не было падручнікаў, але заўсёды знаходзіліся стрэльбы і шаблі. Дзяржаве патрэбны былі змагары за незалежнасць. Свецкія школы асабліва плённа працавалі ў Мінску, Навагрудку, Гродне, Слуцку, Бабруйску. І толькі школы піярскага ордэна яшчэ вытрымлівалі канкурэнцыю, бо і яны пераходзілі да сучасных метадаў выкладання.

Пагроза страты незалежнасці вымагала, як вядома, і эканамічнага мацавання дзяржавы. Нагадаем паляпшэнне дарогі, завяршэнне ў 1784 годзе будаўніцтва каналаў Днепр-Нёман (Агінскага) і Прыпяць-Буг (Каралеўскага), адк-

6

рыццё асобнымі магнатамі, накшталт гродзенскага Тызенгаўза, мануфактур. Але змяніць тут нешта істотна за кароткі час не ўдалося. Большыя поспехі, акрамя асветы, назіраліся на шляху палітычных рэформ.

**ПЕРШАЯ КАНСТЫТУЦЫЯ.** На Чатырохгадовым сейме (1788—1792) большасць паслоў ад Вялікага Княства Літоўскага галасавала за канстытуцыю 3 траўня 1791 года, якая ўносіла ў жыццё шматнацыянальнай дзяржавы рэвалюцыйныя для таго часу перамены. У адрозненне ад суседніх краін, дзе існавала неабмежаваная ўлада каранаваных асоб, стваралася канстытуцыйная саслоўная манархія. Заканадаўчая ўлада поўнасцю адбіралася ў караля і перадавалася двухпалатнаму пастаяннаму сейму. У караля і яго міністраў заставалася толькі выканаўчая ўлада. За сваю дзейнасць яны неслі адказнасць перад сеймам. Пры гэтым падсправаздачнасць міністраў уводзілася ўпершыню ў свеце. Кароль перастаў быць цацкай у руках магнатаў, бо яго выбранасць адмянялася. Каралеўская ўлада станавілася наследнай. Забараняліся канфедэрацыі, адкідваўся шкодны прынцып аднагалоснасці (liberum veto).

Мяшчане атрымалі права пасылаць сваіх паслоў у сейм і купляць зямлю па-за межамі гарадоў. Сяляне браліся пад абарону ўрада, самавольства паноў у дачыненні да іх абмя-

7

жоўвалася. Дэкларавалася свабода веры. Шляхта траціла выключнае становішча ў дзяржаве. Закладваўся пачатак грамадзянскіх і чалавечых правоў.

Знешняя небяспека і атмасфера ўздыму польскага патрыятызму на сейме паўплывала на тое, што паслы ад нашых і жамойцкіх земляў згадзіліся на поўнае зліццё ўрадаў, скарбаў і войск Вялікага Княства Літоўскага і Польскай Кароны, якое, праўда, так і не здзейснілася. Наколькі гэты крок быў правільным, меркаваць цяжка. Але так ці інакш на нашай тэрыторыі ўводзілася дэмакратычная канстытуцыя, другая ў свеце пасля паўночнаамерыканскай. Праўда, яна не была паслядоўнай у абароне правоў некатолікаў і ніжэйшых саслоўяў. Хто ведае, можа спроба цэнтралізму была б і адкінута, а новыя парадкі адкрывалі шлях да сучаснага цывілізаванага жыцця і не толькі для палякаў, а для ўсіх народаў Рэчы Паспалітай...

**ПРАЦЯГ АГРЭСІІ ПАД СЦЯГАМ ПАЛІТЫЧНЫМ.** На жаль, гісторыя мела іншы накірунак. Новую канстытуцыю большасць шляхты сустрэла варожа. Ажыццяўленне рэвалюцыйных ідэй у суседняй дзяржаве вельмі ўстрывожыла і ўрад Расіі. Ён не быў зацікаўлены ў аздараўленні Рэчы Паспалітай, бо даўно выношваў планы далейшых захопаў яе тэрыторыі. Унутраныя і знешнія сілы рэакцыі хутка знайшлі агульную мову. Канфедэрацыя незадаволеных канстытуцыяй фактычна ўзнікла ў Санкт-Пецярбургу 27 красавіка 1792 года пад

8

апекай Кацярыны II. На 14 мая планаваўся ўвод расійскіх войск у Рэч Паспалітую. Прыхільнікі старога рэжыму чакалі прыходу рускіх у Таргавіцы, што на Кіеўшчыне, і ў Вільні. Дзеля захавання сваіх парушаных вольнасцей і пераваг у грамадстве арыстакратыя прадавала незалежнасць Айчыны.

Пасля паспяховага заканчэння вайны з Турцыяй урад Кацярыны II у траўні 1792 года ўрываецца ў Рэч Паспалітую сваімі лепшымі вайсковымі сіламі. Пасля няўдалых для абаронцаў Айчыны бітваў пад Мірам і Брэстам да Таргавіцкай канфедэрацыі далучыўся сам кароль Станіслаў Панятоўскі. З захаду ў наступ перайшло прускае войска Фрыдрыха II, які да таго прыкідваўся надзейным хаўруснікам Рэчы Паспалітай. Супраціўленне рэфарматараў было зломлена. Рэакцыя перамагла. Канстытуцыя 3 траўня 1791 года была скасавана. Але Расія і Прусія на гэтым не спыніліся. У студзені 1792 года яны ў знак падзякі за "дапамогу" дабіліся ад Станіслава Панятоўскага права на другі падзел Рэчы Паспалітай. Расійская імперыя захапіла цэнтральную частку Вялікага Княства Літоўскага і правабярэжную Украіну. Дзяржаўная мяжа Расіі праходзіла па лініі Дзвінск — Смаргонь — Нясвіж — Пінск. Ды і вольная частка Рэчы Паспалітай фактычна апынулася пад расійскім пратэктаратам. Рускае войска засталося ў Вільні і Варшаве.

Такой нахабнасці сваіх "выратавальнікаў" таргавіцкія і віленскія канфедэраты ніяк не чакалі. Жаданне зруйнаваць новую канстытуцыю вяло да руйнавання самой дзяржавы.

*У МАЙСТЭРНІ Валерыі ЖОЛТАК*



# АРАБІНА ЯК НАЦЫЯНАЛЬНЫ СІМВАЛ

...На мальберце: у вясновае неба, нібы з блакітнага шоўку вытканае, узносіцца царква Полацкай Святой Ефрасінні. Прасветлая і ясная ад белых сцен, зялёным радасным купалам імкне яна ў вышыню. За паліста-ружовымі, празрыстымі аблачынамі... У самай жывой зялёнай сіле лістота дрэў перашэптваецца, жартуе, смяецца з ласкавым ветрам. Песціцца на сонцы мурава...

Як выказаць на палатне ўражанне такога жывога трапятання і несмяротны Дух Вечнага? Як дасягнуць гэтага пэндзлем і фарбамі?

Няма вычарпальнага адказу нават у самога мастака. Гэта... Гэта ў руцэ (Боскай?..). Бадай, у самой прыродзе чалавечай рукі. У адчуванні і ўспрыманні на зрок і нават, пэўна, на пах саміх фарбаў на палітры... (Для недасведчанага, для чалавека "збоку" -- мала зразумелая, цьмяная "тэорыя"). Нарэшце, у мастака ёсць сэрца... Найперш усё залежыць, відаць, ад самога мастака. Як асобы. Яго духоўнага складу. Здольнасці бачыць і адчуваць. І выяўляць -- і сябе самога.

Такое тлумачэнне, бадай, найбольш зразумелае. Мастацкае -- ад твора -- уражанне міжволі спараджае вобразны свет, блізкі стану ўласнага занятку: вось тут, у гэтых сценах, у цеснай манаскай келлі, яна жыла, пісала кнігі, вучыла... Ігуменняасветніца. Адсюль кіравалася ў Іерусалім. Там і памерла. Незалежна ад гэтых ведаў узнікае вобраз і другой Ефрасінні -- Прадславы. Унучкі князя Усяслава-Чарадзея. Маладзенькай князёўнай, можа, гуляла яна недзе тут паблізу, у надрэчных, наддзвінскіх травах (можа, нават басаногж...) рвала рамонкі і залатыя люцікі, пляла з іх нямудрыя вянкі і, скінуўшы з галавы абавязковы дзявочы плат, ускладвала вянкі на русыя косы. І сама з сабою смяялася ад бесклапотнага шчасця...

Ці прадчувала яна тады сваю, дараваную ёй Богам Долю?

"Святая Ефрасіння" -- скончаная, у годнай аправе, любая сэрцу работа. Але перад выставай у самой мастачкі ёсць патрэба яшчэ раз падысці да яе з пэндзлем...

Такая работа.

***

Нястомная падарожніца -- праз усё сваё творчае жыццё -- Валерыя Жолтак аддана і натхнёна сцвярджае сябе ў жанры пейзажа. Вясною і ўвосень, улетку і зімою хадзіла і з'ездзіла яна ўсю Беларусь.

"Мінус 20 па Цэльсію"... Такім студзеньскім ці лютаўскім днём пісала яна пагоркавую дарогу на Радашковічы. Кругом -- ні жывое душы. Толькі прытоеныя ад сцюжы рэдкія прысады абапал дарогі.

-- І ў такі мароз выстаялі вы з эцюднікам і фарбамі на той дарозе?

-- Не толькі ж стаяла... -- стрымана ўсміхаецца Валерыя Канстанцінаўна.

А вось сцішаная восенню, утульная "Вёска Сёмкава". Позірк мастачкі з недалёкага кургана. Таксама адна сядзела яна на тым кургане, а побач, пад лёгкім ветрыкам, толькі зябка пацепвалася не зусім яшчэ распранутая арабінка. Гарэлі, як вугольчыкі, прыхопленыя начным надмаразкам, пацягнутыя прыкметнай ужо чарнатой буйныя горка-саладжавыя ягады. А ўнізе -- пад нагамі -- у мройлівым шараватым святле лагоднай восені ладкаваліся хаты пад белымі дахамі, слаліся рэдкія дымы на агародах, высіліся купы дрэў, дзе да рэшты апалых, а дзе яшчэ і ацалелых -- здалёку -- жаўтлява-залацістых...

Мілы-мілы, даўні-даўні, незабыты свет! Колькі ў табе хараства, дабрыні і лекаў для душы, што так даўно ад цябе адарвалася і гібее ў тлумнай немачы. І толькі моліцца на цябе. І за цябе моліцца! Каб толькі ты выжыла, родная зямля...

"Наша Беларусь":

...Адзінае ва ўсім свеце хараство -- Лепельскія азёры! "Сіняе вока" (яно нагадала мне развітанне з Ісык-Кулем...). "Налібоцкая пушча", агучаная ледзь улоўным пераразвонам магутных медзяных ствалоў-труб і гоманам у паднябессі зялёных чупрын. Хвоі гамоняць... А паводка на Сажы... Бярэзіна ў разліве. Вяча. Коласавы мясціны. Купалавы вербы ў Вязынцы. Крынічка ў Ракуцёўшчыне. Бярозавы ружовы сон вакол Каралішчавіч у сакавіку. Спатканне Друці з Дняпром у Рагачове (там засталіся шчаслівыя імгненні і майго юнацтва...).

А чым, здавалася б, здольная была захапіць мастачку "Старая занядбаная пільня" -- недзе таксама на беразе Сажа ці Проні? А вось жа спыніла яе ўвагу... Ці не падабенствам -- такім распаўсюджаным -- і на самое чалавечае жыццё? Колькі іх, такіх разбураных, занядбаных людзьмі і Богам лёсаў, марнее сёння на зямлі ў нікчэмнасці і непапраўнай страце! Мастацкая метафара? А, можа, гэта толькі маё, гледача, уяўленне? Так ці інакш, а выклікала яго мова пейзажа Валерыі Жолтак, высакародна-стрыманая, нязменна прывабная сваёй нязмушанай уладай над фарбамі.

Гэтаксама, як выклікаюць цэлы шэраг асацыяцый-успамінаў яе "Коні", што пасуцца на ўжо выпасенай і сонцам выпаленай пашы (як выразна выказаны гэты настрой, дасягнуты такім удалым скарыстаннем пясчанага, жоўтага і бляклa-зялёнага колераў!). Гурт коней. Нават дзіўна, дзе яна стрэла іх на цяперашніх беларускіх выпасах? Зараз... Але ж: "Пасуцца яшчэ не апошнія коні!" І ўспамінаеш незабыўную Жэнечку Янішчыц... Яе шчымлівую ўцеху: "І складзены песні чыесь у стагах..."

Загадкавая, загадкавая прырода Мастацтва! І ці трэба ўжо гэтак пільна капаць вакол яе ржавымі рыдлёўкамі?..

...А дарога мастака не спынялася. Вяла далей і далей. І ўдзячным плёнам нязменна была ўзнагароджаная і на Закарпацці, і ў падарожжы па Крыме, і па Арменіі, і ў Сібіры. Непаўторнай веліччу і нястратным настроем Вечнага захаплялі і засталіся на палотнах мастачкі храмы Пскова і Ноўгарада Вялікага...

Аднак пералік, толькі пералік, усяго зробленага за жыццё гаворыць вельмі мала. Гэтак, як і кнігу, як бы хто старанна ні пераказваў табе, яе трэба чытаць самому. Мастацкі твор - няхай гэта будзе скульптура, жывапіс -- найлепш стрэцца з ім, пабачыць у майстэрні мастака ці на выставе.

Валерыя Жолтак рыхтуецца да выставы сваіх работ за апошнія гады творчасці. Пейзаж і нацюрморт. Перавагу аддасць мастачка гэтым жанрам.

На папярэдняй выставе былі паказаны яе жанравыя кампазіцыі і партрэтны жывапіс.

***

Яшчэ ў 1958 годзе на рэспубліканскай выставе мастакоў з'явіўся нацюрморт Валерыі Жолтак "Лясныя званочкі". Той бязважкі сіне-блакітны подых у паліваным гладышы на белым падвакенніку быў як шчасны смех, як мара, як сон, што ўзносіць душу ў завоблачную вышыню... Адмыслова вытканы рукамі жанчыны-стараннiцы ручнік з беларускага лёну (белага і чырвонага -- жыццядайных! -- колераў) цудоўна як бы акцэнтаваў нацыянальную належнасць гэтага хараства да зямлі, якая гадавала і самую мастачку.

Можна пэўна сказаць, што з тых "Званочкаў" і пачаўся ў Валерыі Жолтак Час яе служэння Нацюрморту.

Нацюрморт з брызгалінай. Нацюрморт з восеньскімі грушамі. Блакітны нацюрморт. Нацюрморт "Лірычны". Бэз цвіце. Яблыня зацвітае. Цюльпаны. Ірысы. Півоні. Флоксы. Хрызантэмы... А яшчэ "Грэчка цвіце"... Нацюрморт "Лён мой"...

На фоне адметнейшых -- у чатырнаццаць і шаснаццаць нітоў! -- беларускіх абрусаў і ручнікоў драўляны старадаўні калаўротак... (Не кожная жанчына сядала за яго -- толькі самыя спрытныя і ўвішныя пралллі!). Побач на лаве -- кукла срэбнага кужалю і драўляны грабянец -- часаць такі кужаль. А таксама напрадзеная ручайка і клубок нітак...

Нацюрморт з народнай керамікай... Увесь рэквізіт яго, як і заўсёды ў Валерыі Жолтак, удала скампанаваны і як бы падкрэслены -- адпаведна настрою, тэрміну, сезону -- абавязковым маляўнічым акцэнтам. Часцей гэта бывае гронка арабіны. Чырвонай ці чорнай. Арабіны маюць здольнасць так нязмушана ўпрыгожыць і падкрэсліць аўтарскую задуму! Гэта адзначаюць нават мастацтвазнаўцы: пунсовая арабіна ў Валерыі Жолтак -- як наш нацыянальны сімвал... А як палаюць яны ў букетах на палотнах мастачкі! Чырвоныя і чорныя арабіны!

А хіба абыдзеш увагай нацюрморт "Хлеб"? Зноў жа наш, нашай беларускай зямлі хлеб: сноп жыта, сноп пшаніцы, аўсяны сноп, у галоўках шапоча снапок маку... А на стале, на бялюткім абрусе боханы хлеба... Здаецца, нават адчуваеш пах добра выпечанай, рудаватай скарынкі... Толькі адкрой лусту, памаж добра свежым, збітым маслам ці мёдам! А сала таксама хіба ж сапсавала б справу?.. Дзе мы? У якім часе і свеце?

...А яшчэ! Нацюрморт "Меднае начынне"... Як жар, гарыць медны (!) гляк. (Колькі памятаю, дома ў нас былі заўсёды гліняныя глякі). Гэтакі ж, пэўна, паўвядзёрны чыгун, патэльня, дзіўная нейкая каструля з чайнікам... Беларусы -- даўно -- былі выдатнымі меднікамі!.. А яшчэ запэўніваю вас: вы не толькі ніколі ў жыцці не бачылі, вы ўявіць сабе не здолееце і такія хатнія вагі! На адмысловых, цяжэзных, медных ланцугах. І з гэтакімі ж цяжэзнымі меднымі шалямі-талеркамі. Тым вагам, пэўна, мо дзвесце ці, можа, па трыста нават год... Цікава, што на іх важылі? Каменне? Золата? Ці людскія лёсы? Так і ўяўляецца мне, як гупнуў і кульнуў адну медную талерку цяжэрны, падкаваны меддзю мужчынскі бот... Як кульнулася другая талерка, і ўскінулася на ёй -- хіснулася і не ўтрымалася -- іншая постаць. Жаночая, хілая, сплаканая... Што яна важыла на тых вагах? Гаспадарова багацце ці свае слёзы?..

Спынюся! Усё роўна не пералічу, не назаву, не ўспомню ўсё ўбачанае, адчутае і перажытае ў майстэрні мастака. Не хопіць захаплення, а галоўнае -- слоў не хопіць выказаць захапленне хараством, уладай над фарбамі, адчуваннем "душы" натуры... І нястрымнай аддачай цеплыні ўласнага сэрца і жыцця ўсёй гэтай неабдымнай стыхіі мастацтва.

Гэта сапраўды непамерна. Зрабіць столькі і такой работы за жаночае (няхай сабе і немалое ўжо) жыццё. І як быццам непрыкметна. Без грукату і грому. Без паказных прэзентацый і інтэрв'ю. Без салонаў і наведванняў (хто не ведае, як яны наладжваюцца!) афіцыйных уплывовых асоб... Пасля чаго неўзабаве ў друку з'яўляюцца паведамленні "аб прысваенні звання"... Мілыя мужчынскія гульні! (Праўда, і сярод нашае сястры трапляюцца таксама са спраўнымі "локцямі"...)

Яна ніколі не пісала партрэтаў "правадыроў", партрэтаў начальнікаў і іх жонак. У яе не было "будоўляў камунізму". Ёй ніколі ніхто не прапаноўваў паступаць у партыю... (Затое ў яе не было патрэбы і ганебна адхрышчвацца ад яе). Напэўна ж таму -- афіцыйна -- яе і не заўважалі на "пярэднім краі" грамадскага жыцця...

А мастацкімі палотнамі Валерыі Жолтак тым не менш гледачы захапляліся... На выставах мастакоў Беларусі ў Пекіне, у Бухарэсце, Будапешце, Варшаве. Яе нацюрморты і пейзажы бачылі ў Італіі, Англіі, Германіі...

Яе творы экспануюць і захоўваюць як уласнасць Дзяржаўны мастацкі музей і іншыя музеі рэспублікі... Яны ёсць у клубах, імі цешацца дзеці школы-інтэрната. Іх можна ўбачыць на сценах бібліятэкі Акадэміі навук і ў бальніцы. Імі ганарацца тыя шчаслівыя, у каго дома "пахне чабор" -- яе асенні нацюрморт. Або лірычна свеціцца бярозы ў сакавіку...

Многа гэта ці мала?

Галоўнае і ўцешнае іншае. Мастачка Валерыя Жолтак не стамілася ў творчай дарозе. Не стамілася наталяць сябе хараством.

І не трэба гаворкі пра юбілеі...

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: работы В. ЖОЛТАК. "Полацк. Спаса-Ефрасіннеўская царква"; "Нацюрморт з грушамі".**





# АБ'ЯДНАНЫЯ АДНОЙ ІДЭЯЙ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

-- Пісаў і друкаваў у старадарожскай раённай газеце. Школьнікам надрукаваў першыя вершы ў часопісе "Полымя". Максім Танк тады быў рэдактарам. Ён іх прыняў, прачытаў цэлы сшытак школьніка і выбраў два вершы. Падзея!

-- У 1987 і ў 1988 у цябе выходзіла па паэтычным зборніку. Добра пісалася?

-- Асабліва і не пісалася. Проста калі надаралася вольная часіна, хацелася нешта выказаць. Хаця, калі быць шчырым, цяжка было сказаць праўду. Ніколі не забуду, як у выдавецтве "рэдагавалі" маю паэму "Хат вячысты дар". Я пераконваю хлопцаў не чапаць майго тэксту, бо так ёсць, як я пішу. А яны гавораць: "Не, такога няма" і ўсё на цэнзуру спасылаюцца.

-- Ты заканчваў філфак, настаўнічаў на вёсцы, а потым працаваў у Інстытуце этнаграфіі і фальклору. Гэта была проста праца, ці да народнай творчасці пацягнулася твая душа?

-- Адначасова і тое, і другое. Этнаграфія, народная культура -- гэта вёска, тое, чым мы жылі. Хацелася пра гэта пісаць, шырэй глядзець на культуру, якую ведаў з маленства. Фальклор жа -- аснова культуры.

-- А якая была тэма тваёй дысертацыі?

-- Этнаграфічная: "Быт і культура беларусаў у творчасці Уладзіслава Сыракомлі".

-- Дык вунь адкуль, аказваецца, ідзе зацікаўленне Сыракомлем...

-- Сапраўды з таго часу пачынаецца маё захапленне беларускай польскамоўнай літаратурай і наогул беларускай літаратурай XIX стагоддзя. Я зразумеў, што наша літаратура значна багацейшая, чым падаецца ў хрэстаматыях і падручніках.

-- Творчасці Сыракомлі, Чачота, Зана ні ў школе, ні нават ва універсітэце мы не вывучалі.

-- Вось тут, здаецца, мы і падыходзім да самага галоўнага, чаму я спыніўся на гэтым перыядзе, займаюся ім і яшчэ, відаць, доўга буду займацца. Літаратура XIX стагоддзя, па сутнасці, не адкрыта. Мы вывучалі толькі рэшткі яе, а больш дакладна, толькі беларускамоўныя творы. Той жа Максім Гарэцкі, калі складаў сваю хрэстаматыю, пісаў гісторыю беларускай літаратуры, выключаў толькі беларускамоўную літаратуру. І на тым этапе такі падыход быў правільным, бо нам трэба было сцвярдзіць нацыю, а для гэтага паказаць літаратуру на беларускай мове. Цяпер мы сцвярдзілі нацыю, маем сваю дзяржаву, хаця да поўнай незалежнасці нам далекавата пакуль. Але пагляздзець шырэй і глыбей на нашу спадчыну час прыйшоў.

-- Пісьменнікі-філаматы не адмаўлялі беларускай мовы, змагаліся за яе пашырэнне і ў той жа час пісалі свае творы на польскай мове. Як гэта ўсё вытлумачыць?

-- Вось тут і праблема. На працягу некалькіх стагоддзяў Вялікае Княства Літоўскае існавала як беларуская дзяржава, але калі яно ўвайшло ў Рэч Паспалітую, польская мова паступова выціснула беларускую і стала дзяржаўнай. І такое становішча існавала не адно стагоддзе. Калі пачыналася творчасць паэтаў-філаматаў, нават друкаванне на беларускай мове было праблемай. І ўсё ж беларускае нацыянальнае адраджэнне пачынаецца якраз з польскамоўных пісьменнікаў. Паэты-рамантыкі найперш звярнуліся да народнай творчасці, да народнай культуры, прыпаўшы да іх як да крыніцы абнаўлення. Тамаш Зан, Ануфры Петрашкевіч, Ян Чачот, за імі да беларускага фальклору звярнуўся Адам Міцкевіч. А ад фальклору адзін крок да мовы. Яго зрабіў Ян Чачот, у 1819 годзе напісаўшы верш на беларускай мове. Ён нават складаў невялічкі слоўнічак. Рабіліся першыя спробы вызначыць моўныя нормы, вылучыць яе асаблівасці. Філаматы збіралі звесткі пра Беларусь, побыт яе народа, мову, на якой гавораць розныя слаі грамадства, выдалі інструкцыю збірання этнаграфічных матэрыялаў, што адразу была канфіскавана паліцыяй.

-- За што Ян Чачот, Тамаш Зан, іншыя філаматы трапілі за краты, былі сасланы ў глыбіню Расіі? Палітыкай яны быццам бы і не займаліся?

-- За тое, што хацелі асветы свайму народу. Даказвалі, што і ў беларусаў была свая гісторыя. Выступалі супраць расійскага гвалту і за агульную з Польшчай дзяржаву.

-- Ідэалізацыя беларуска-польскіх стасункаў, думаю, была ў іх памылковай? Бо чым паланізацыя лепш за русіфікацыю?

-- Нічым не лепш, але гэта іх погляды, іх думкі. Разыходжанні былі нават паміж самімі філаматамі.

-- Ты не баішся называць Адама Міцкевіча беларускім пісьменнікам?

-- Адам Міцкевіч агульны наш з палякамі класік. Мы не павінны адбіраць яго ў Польшчы, бо ён зрабіў пераварот у польскай літаратуры. Хаця амаль не жыў у гэтай краіне, у эміграцыі змагаўся за адналенне Польшчы. Разам з тым Адам Міцкевіч многа зрабіў і для беларускай культуры. Хоць і па-польску, але ж пісаў пра нас, беларусаў. Быў заснавальнікам рамантызму ў беларускай літаратуры, праклаў шлях для наступных пакаленняў, і гэта быў шлях у народнасць, зварот да фальклору, да народнай культуры, мовы. Дык чаму, скажыце, мы павінны адмаўляцца ад такіх пісьменнікаў? Тым больш, што ўсе яны залічвалі сябе да Літвы і называлі сябе літвінамі. Пушкін называў Міцкевіча "певцом Литвы", гэта значыць "певцом Беларуси". Пушкін гаварыў, а мы баімся.

-- Як ты думаеш, чаму ў беларусаў так слаба развіта пачуццё нацыянальнай годнасці? Чаму нам нічога свайго не трэба? Рабская нейкая псіхалогія -- гэта што, нацыянальная рыса?

-- Не, мы нармальныя. А рабская псіхалогія -- вынік таго, што мы доўгія гады жылі то пад Польшчай, то пад Расіяй. Вось і цяпер не можам уявіць, як пражыць без Расіі.

-- Але ж гэтыя рысы з'явіліся не сёння. У Сыракомлі нават ёсць твор "Жменя пшаніцы", з якога відаць, што мы заўсёды былі захапляліся замежным, чым шанавалі сваё.

...Войт, адчуваючы старэчую нямогласць, хоча выбраць з трох сыноў сабе замену і пасылае іх за мяжу. Вярнуўшыся, адзін захапляецца нямецкімі строямі, другі хваліць польскую мову і песні, і толькі апошні прывёз з Украіны пшаніцу, ад якой восенню спадзяецца прычакаць багатага ўмалоту, дбае пра дабрабыт і багацце роднага краю. Яго і прызначыў бацька войтам.

-- Мудры чалавек быў Сыракомля. Разумеў, што культуру, духоўныя багацці нельга запазычыць, яны свае ў кожнага народа, а добрае і карыснае можна і ў суседзяў пераняць.

-- Калі чытала тваю кніжку "Лісце забытых алеяў", склалася ўражанне, што пісаў яе для душы, з замілаваннем.

-- Так. Пачынаў яе з нарыса пра Сыракомлю, выраашы праехаць па яго мясцінах, зыходзячы з выслоўя: каб зразумець паэта, трэба пабываць на яго радзіме. Цікавыя сустрэчы з людзьмі, калі чуеш тую ж мову, якую чулі твае папярэднікі, тыя ж назвы, паданні, што яны чулі. Па Чачотавых мясцінах прайшоў. Пачуў легенды пра возера Свіцязь, пасля якіх на балады Міцкевіча гляджу паіншаму. Аб'ездзіў Віленшчыну, дзе гучыць чыстая беларуская мова.

-- А што ў гэтых падарожжах лічыш сваім самым галоўным адкрыццём?

-- Самае галоўнае -- гэта сустрэча з зямлёй, якая ўзгадавала выдатных беларускіх паэтаў. Зусім па-іншаму чытаю іх творы цяпер. Акопы, напрыклад. Купала там хадзіў, бачыў тое неба, зямлю, араў гэту зямлю. Уся Купалава паэзія звязана з Акопамі.

-- А чым займаешся зараз? Вершы пішаш?

-- Вершы даўно не пішу. Поўнасцю заглыбіўся ў тую тэму, пра якую гаварылі вышэй. Хачу пераканаць і іншых, што ў XIX стагоддзі мы мелі вялікую літаратуру, і таму найперш паказаць творчасць нашых рамантыкаў. Падрыхтаваў кнігу "Зорка філаматаў". Яна ўжо здадзена ў выдавецтва. Перакапаў горы літаратуры, каб расказаць пра дзесяць лепшых, на мой погляд, пісьменнікаў-філаматаў, якія былі пачынальнікамі беларускага нацыянальнага адраджэння, хоць большасць з іх пісала на польскай мове. У кнізе вялікі ўступны артыкул, нарыс пра кожнага і найбольш характэрныя яго творы, пісьмы, запіскі, якія я пераклаў на беларускую мову. Першым прадстаўлены ў кнізе Адам Міцкевіч. Я сам пераклаў урывак з "Пана Тадэвуша", з "Дзядоў" урывак з III часткі, які ніколі ў нас не перакладаўся. Ён пра філаматаў у час іх зняволення ў Базыльянскім кляштары.

Міхал Рукевіч быў сапраўдным дзекабрыстам, разам з імі і гараваў у Чыце ў Пятроўскім заводзе. Францішак Малеўскі -- адзін з кіраўнікоў філаматаў. Ігнат Дамейка таксама філамат, нацыянальны герой Чылі, які моцна тужыў па Беларусі і ў канцы жыцця прыязджаў сюды, плакаў, калі слухаў беларускія народныя песні. Юзаф Кавалеўскі, сасланы ў Казань, стаў вядомым манголазнаўцам. Да канца жыцця ўсе яны былі як адна дружная сям'я, хоць жылі ў розных канцах свету, былі адданы адной ідэі.

-- Адна ідэя. Як яе можна вызначыць?

-- Гэта ідэя Радзімы, яе вызваленне з нявол, нацыянальнае адраджэнне.

-- У тваёй тэорыі беларускіх польскамоўных пісьменнікаў знойдуцца мусіць і працаўнікі.

-- Працаўнікаў не павінна быць, бо тут няма чаму супрацьіўляцца. Надышоў час шырэй глядзець на сваю спадчыну.

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**



**Міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Бутэвіч і народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін 20 красавіка наведалі творчую майстэрню скульптара Мікалая Рыжанкова. Яны цёпла павіншавалі майстра з прысваеннем яму звання "Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь".**

**НА ЗДЫМКУ: Анатоль БУТЭВІЧ і Іван ШАМЯКІН у майстэрні мастака М. РЫЖАНКОВА (у цэнтры).**

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА.**

# 150 ВЫПУСКАЎ ТЭЛЕЧАСОПІСА "РОДНАЕ СЛОВА"

29 красавіка 1994 года споўнілася пятнаццаць гадоў з часу выхаду першага выпуску тэлевізійнага часопіса "Роднае слова".

Сваё жыццё тэлечасопіс распачаў у тую пару, калі моўныя пытанні ў палітычным аспекце ніхто сур'ёзна не парушаў: ні радыё, ні друк, ні наш "ЛіМ". Усе маўчалі, нечага чакалі, хаця і ўсе бачылі, што ідзе дзяржаўнае занядбанне нацыянальнага жыцця.

Гэта цяпер шмат якія газеты ды часопісы пішуць і гавораць пра мову. Маем нават адпаведную газету "Наша слова" і Таварыства беларускай мовы. А ў 1979 годзе тэлечасопіс "Роднае слова" быў адзіны ў рэспубліцы такім грамадскім агнісакам, пры якім хоць як выражаліся моўныя пытанні. Да жыцця часопіс паўстаў з прыходам на працу ў Дзяржаўны камітэт БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні Генадзя Бураўкіна. Гэта ён найперш патурбаваўся, каб такі часопіс быў на тэлебачанні. Шмат гадоў ён асабіста, як старшыня Камітэта, апекаваўся ім, прымаў на сябе ўдары партакратаў, якім найчасцей было не даспадобы тое, пра што і каго гаварылася, паказвалася з блакітнага экрана.

Першым вядучым "Роднага слова" быў пісьменнік Максім Лужанін, затым вялі перадачу Пётра Садоўскі, Янка Саламевіч, Андрэй Каляда і іншыя. Шмат зрабілі для станаўлення тэлечасопіса "Роднае слова" пісьменнік Уладзімір Юрэвіч, мовазнаўца Фёдар Янкоўскі. Шчыра падтрымаў выхад тэлечасопіса Янка Брыль. Гэта на іх энтузіязме, іхняй энергіі былі заснаваны першыя выпускі тэлечасопіса. Выхад яго цёплым словам прывітаў таксама Кандрат Крапіва...

З тае пары выйшла сто пяцьдзесят выпускаў тэлечасопіса "Роднае слова" і ў яго з'явіўся цёзка -- метадычна-навуковы часопіс Міністэрства адукацыі, які таксама завецца "Роднае слова", пра з'яўленне якога, каб ён нарадзіўся, між іншым, тэлевізійны часопіс таксама немала турбаваўся, клапаціўся.

Тэлевізійны часопіс "Роднае слова" прайшоў шлях ад моўнай паняверкі ў рэспубліцы да прызнання нашай мовы дзяржаўнай.

"Роднаму слову" прыемна, што многія з тых, хто прымаў удзел у ім, сталі вядомымі дзеячамі культуры, грамадскага жыцця.

...Багаты летапіс у "Роднага слова". І яму дóўжыцца, аж пакуль цалкам не ўсталюецца фактычнае дзяржаўнасць роднай мовы ў рэспубліцы. Але і тады, калі ўсталюецца, у "Роднага слова" будзе непачаты край працы.

Мова -- гэта ж неабсяжны акіян, і працы ў ім хопіць не аднаму пакаленню.

**РОДНАСЛОВЕЦ.**

# І НАДСОН ЗРАБІЎ КОПІЮ...

Вядомы кампазітар Яўген Паплаўскі знайшоў у Поразаве, на яго радзіме, у сямейнай кніжнай спадчыне, унікальнае выданне. Нагадаем, што Я. Паплаўскі -- унучаты пляменнік вядомага з гісторыі беларускага ксяндза Станіслава Глякоўскага. Знойдзенае выданне -- доктарская дысертацыя Глякоўскага, абароненая ў Ватыкане і надрукаваная ў Вільні ў 1937 годзе. Прысвечана яна працы Івана Кранштацкага "Маё жыццё ў Хрысце". Цікава, што аб'ектам даследавання каталіцкага святара зрабілася праца праваслаўнага багаслова. І яшчэ цікава, што імя аўтара дысертацыі пададзена як "Станіслаус Гляк" -- ці не ёсць гэта праўдзівае, "неспаланізаванае" прозвішча ксяндза Гляхоўскага? Выдадзена па латыні, праца чакае перакладу на беларускую: гэта, безумоўна, матэрыял, варты публікацыі ў часопісе "Хрысціянская думка". Пакуль жа, даведаўшыся пра знаходку ў Поразаве, дысертацыяй кс. Гляхоўскага зацікавіўся айцец Аляксандр Надсон, зрабіў яе ксеракопію і павёз у Лондан. Дагэтуль было наадварот: выданні ды рукапісы з архіва Лонданскай бібліятэкі імя Ф. Скарыны вярталіся ў выглядзе ксеракопій на Беларусь...

## З ГІСТОРЫІ ФІЛАТЭЛІІ

# ПРЫСВЕЧАНЫ КАСЦЮШКУ

У 1984 годзе была выдадзена невялікая кніга "Філатэлія пра Беларусь". У адным з яе раздзелаў аб славутых людзях, выхадцах з Беларусі, я вельмі мала расказаў аб паштовых выпусках, прысвечаных Т. Касцюшку. У гэтым раздзеле пра вялікага паўстанца ўсяго пяць радкоў: "На Брэстчыне нарадзіўся і некаторы час жыў вядомы дзеяч польскага нацыянальна-вызваленчага руху Т. Касцюшка -- выхадзец са старадаўняга шляхецкага роду беларускага паходжання. Паштовыя ведамствы шэрагу краін прысвяцілі Т. Касцюшку




свае выпускі". Калі расшыфраваць апошні сказ, то стане вядома, што паштовыя выпускі, якія расказваюць пра Касцюшку, былі ажыццёўлены ў Польшчы, ЗША і Аўстраліі. І выпускаў гэтых многа, у адным газетным артыкуле пра ўсё і не раскажаш, таму я абмяжую свой аповяд толькі самымі цікавымі. Што ж тычыцца маёй кнігі "Філатэлія пра Беларусь" і кароткай згадкі ў ёй пра Касцюшку, то пісалася яна ў 1981--1983 гадах, выйшла ў 1984 годзе. То былі гады, калі адносіны і да падзей 1794 года, і да Т. Касцюшкі былі зусім іншыя. Сёння ж у плане на 1994 год Міністэрства сувязі РБ ёсць пункт пра выпуск маркі, прысвечанай кіраўніку паўстання 1794 года. Выпуск гэты маюць намер зрабіць сумесным -- пошты Рэспублікі Беларусь, Польшчы і ЗША. Першая ж паштовая марка з партрэтам Т. Касцюшкі была выдадзена ў перадваеннай Польшчы ў 1932 годзе. Праўда, яна не была прысвечана якому-небудзь юбілею кіраўніка паўстання ці самому паўстанню. Пошта Польшчы адзначыла выпускам гэтай маркі 200-годдзе з дня нараджэння прэзідэнта ЗША Д. Вашынгтона. На мініяцюры, аўтарам якой быў мастак Р. Клячэўскі, у цэнтры змешчаны партрэт прэзідэнта ЗША, акаймаваны дзяржаўнымі флагамі ЗША і Польшчы. Па абодва бакі партрэта Д. Вашынгтона -- партрэты Т. Касцюшкі і К. Пуласкага -- удзельнікаў вайны за незалежнасць ЗША. Партрэт Т. Касцюшкі, прадстаўлены на гэтай марцы, быў напісаны ў 1829 годзе А. Аляшчынскім і лічыцца адным з лепшых. Потым ён неаднаразова рэпрадуцыраваўся на паштовыя маркі і штэмпелі Польшчы. З гэтай маркі 1932 года ў польскай філатэліі пачалася цэлая галерэя выпускаў, прысвечаных Т. Касцюшку і паўстанню 1794 года. Можна тут успомніць яшчэ адну перадваенную марку Польшчы: у 1938 годзе выйшла марка "150 гадоў Канстытуцыі Злучаных Штатаў Паўночнай Амерыкі. 1787--1937", на якой паказаны тры гістарычныя асобы -- Т. Касцюшка, Т. Пайн і Д. Вашынгтон. (Т. Пайн -- англійскі мысліцель і пісьменнік, удзельнік вызваленчай вайны ў ЗША). У перадваенныя гады марка пра Касцюшку выйшла і ў далёкай Амерыцы. У 1933 годзе пошта ЗША выпусціла марку з адлюстраваннем помніка Т. Касцюшку, які быў устаноўлены ў горадзе Саратога (ЗША, штат Нью-Йорк, Саратога-Сірынгс). У бітве пад Саратогай праявілася выдатнае палкаводчае майстэрства Т. Касцюшкі, яго дзеянні спрыялі перамозе войск паўстанцаў над войскамі праціўнікаў незалежнасці ЗША. Адзначаючы 200-гадовы юбілей гэтай бітвы, польская пошта ў 1977 годзе прымяніла памятны штэмпель у адным з паштовых аддзяленняў Кракава. У малюнку штэмпеля -- партрэт Касцюшкі на фоне карты ЗША.

Многа марак пра Касцюшку і паўстанне 1794 года было выдадзена ў пасляваеннай Польшчы. Вось толькі некаторыя з іх. На першай пасляваеннай польскай серыі марак, выдадзенай у верасні 1944 года, былі змешчаны партрэты нацыянальных герояў краіны -- Касцюшкі, Траўгута і Дамброўскага. Прычым, партрэт Т. Касцюшкі на марцы быў перададзены па тым жа арыгінале -- партрэту А. Аляшчынскага 1829 года, што і на марцы 1932 года, згаданай вышэй.

Да 160-годдзя паўстання 1794 года ў 1954 годзе польская пошта выдала тры буйнафарматныя маркі. На адной з іх рэпрадуцыравана цэнтральная частка вядомага палатна пэндзля Я. Матэйкі "Касцюшка пад Рославіцамі" (1888 г.), што захоўваецца ў Нацыянальным музеі ў Кракаве.

У 1975 годзе паштовыя ведамствы многіх краін свету адзначылі 200-годдзе незалежнасці ЗША выпускам марак, канвертаў і спецгашэнняў. Пошта Польшчы выдала серыю марак і блок пад назвай "Палякі ў жыцці Амерыкі". Дзве маркі гэтага выпуску прысвечаны Касцюшку. У 1979 годзе ў горадзе Філадэльфія (ЗША) быў адкрыты помнік нацыянальнаму герою Польшчы і ЗША -- Т. Касцюшку, выкананы скульптарам прафесарам М. Канечным. Гэты помнік -- дар польскага народа амерыканскаму ў гонар 200-годдзя ЗША. У тым жа годзе пошта Польшчы выпусціла марку з адлюстраваннем гэтага помніка. Ёсць імя Касцюшкі і на карце далёкай Аўстраліі. У 40-х гадах XIX стагоддзя польскі геолаг, падарожнік і даследчык Аўстраліі П. Стралецкі назваў імем Касцюшкі самы высокі пік Вялікага Водападзельнага хрыбта -- вышэйшая кропка Аўстраліі гара Касцюшкі -- 2 230 метраў над узроўнем мора (на поўдзень ад Канберы). У 70-х гадах пошта Аўстраліі прымяняла спецыяльны штэмпель, у тэксце якога прыведзена назва гары -- Касцюшка.

Яшчэ некалькі цікавых выпускаў пра Касцюшку.

У гады другой сусветнай вайны ў няволі ў немцаў знаходзілася вялікая колькасць




паланёных у 1939 годзе польскіх афіцэраў. Яны былі размешчаны ў спецыяльных лагерах. У 1944 годзе ў некалькіх месцах зняволення ўзнікла лагерная пошта, якая выпускала свае маркі. І, вядома ж, сярод іх аказаліся маркі, прысвечаныя паўстанню 1794 года і Т. Касцюшку. У лагеры Вальдэнберг была выпушчана марка, што адзначыла 150-ю гадавіну паўстання 1794 года. На яе малюнку адлюстраваны паўстанцы са зброяй у руках -- косамі, віламі, сякерамі. У тым жа лагеры была выдадзена серыя марак "Гетманы". На адной з мініяцюр гэтай серыі -- партрэт Касцюшкі ў акаймаванні паўстанцкай зброі і дубовых лістоў. У лагеры Грос Борн у тым жа 1944 годзе таксама дзейнічала лагерная пошта. Адна з серый марак гэтай пошты называлася "Барацьбіты за свабоду", а на адной з мініяцюр быў партрэт Т. Касцюшкі, выкананы лагерным мастаком ваеннапалонным.

Вось далёка не поўны аповяд пра паштовыя выпускі розных краін, прысвечаныя нашаму слаўнаму земляку.

**Леў КОЛАСАЎ.**

## СВЯТА АДБЫЛОСЯ!



**Прыгажосць выратуе свет... Гэтую фразу заўсёды паўтараюць на конкурсах прыгажунь. Але ж не стройныя ногі і не аб'ёмы бёдраў меў на ўвазе аўтар гэтых радкоў. Ёсць і іншая прыгажосць --прыгажосць руху, грацыі, багатага ўнутранага свету. На свята такой прыгажосці і трапіў наш фотакарэспандэнт. 24 красавіка ў Палацы культуры тонкасуконнага камбіната праходзіў дзіцячы конкурс выканаўцаў сучаснага бальнага танца. Самыя юныя ўдзельнікі -- танцоры ва ўзросце 7--8 гадоў -- зачароўвалі сваёй непасрэднасцю. Нават строгае і вельмі кампетэнтнае журы, у склад якога ўваходзілі прэзідэнт Федэрацыі спартыўнага танца Рэспублікі Беларусь В. Парахневіч, віцэ-прэзідэнт ФСТБ М. Конахаў, член прэзідыума Л. Лазарава, прафесійны педагог В. Грабіцкая і арганізатар конкурсу М. Сырыцкі, вымушана было прызнаць, што цяжэй за ўсё выбраць фіналістаў менавіта ў гэтай цудоўнай групе. Трохі старэйшыя танцоры 9--10 гадоў ужо набылі вопыт спаборніцтваў і трымаліся больш упэўнена і прафесійна, але і яны з павагай глядзелі на сваіх старэйшых таварышаў --танцораў класа "С", якім ужо споўнілася 12--13 гадоў!**

**Мы задалі пытанне арганізатару конкурсу, кіраўніку клуба сучаснага бальнага танца "Альтаір" М. Сырыцкаму: "Хто ж фінансаваў гэтае мерапрыемства!" Міхаіл Аляксандравіч у адказ засмяяўся: "Мы лічым, што калі хочаш, каб у цябе ў жыцці былі святы, то арганізуй іх сабе сам. Мы ні ў кога не прасілі грошай, проста запрасілі гасцей з іншых калектываў, да нас прыехалі дзеці з Віцебска, Гродна, Гомеля. Бацькі на грамадскіх пачатках рабілі ўсё: працавалі ў лічыльнай камісіі, вялі конкурс, старэйшыя дзеці адказвалі за музыку. І як бачыце, свята адбылося!"**

**Мы падумалі: можна наракаць на нашу неўладкаванасць, на цяжкасці жыцця, а можна насуперак усяму выхоўваць прыгажосць у нашых дзецях і дарыць гэтую прыгажосць тым, хто вакол нас.**

**Людміла ЛЕБЕДЗЕВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: у час конкурсу.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**



## СПОРТ

СПАРТЫЎНАЯ ГІМНАСТЫКА. Чатыры залатыя і два бронзавыя медалі заваявалі прадстаўнікі Беларусі на першынстве свету, якое прайшло ў Аўстраліі. Асабліва ўдала выступіў тут мінчанін Іван Іванкоў. Ён стаў пераможцам у мнагабор'і. У Віталя Шчэрбы -- трэцяе месца.

МАСТАЦКАЯ ГІМНАСТЫКА. На міжнародным турніры ў Германіі мінчанка Ларыса Лук'яненка заняла другое месца. У спаборніцтвах, на якіх перамагла балгарка Марыя Петрава, удзельнічалі ўсе мацнейшыя гімнасткі свету.

БОКС. У сталічным Палацы спорту адбыўся матч зорак прафесіянальнага боксу. На рынгу выступаў і алімпійскі чэмпіён Вячаслаў Яноўскі. Акрамя яго, пераможцамі сярод беларускіх спартсменаў сталі Дзмітрый Пятроўскі і Муслім Біярсланаў.

ТЭНІС. Незвычайны матч адбудзецца ў сталіцы Славакіі. Мінчанка Наталля Зверава выклікала на паядынак... іранца Мансура Баграмі, на рахунку якога перамогі над Іванам Лендлам і іншымі мацнейшымі спартсменамі планеты. Матч будзе праведзены 5-га ліпеня.

**Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").**



**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**



**Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 586. Падпісана да друку 3. 5.1994 г.**